Цана асобнага нумару 20 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 8 (155) | Вільня, Панядзелак 23 Студзеня 1928 г. | Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шасьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Што трэба ведаць кожнаму выбаршчыку Беларусу.

4 сакавіка (марца) 1928 году маюць адбыцца выбары ў Сойм, а 11 таго-ж сакавіка — у Сэнат.

У апошнія выбары, якія адбыліся 5 гадоў таму назад, польскія партыі, асабліва „Вызваленьне“ і „PPS“, усялякімі абманамі здабылі ў Сойм і Сэнат шмат мандатаў беларускімі галасамі.

Гэта была вялікая памылка беларускіх працоўных масаў.

Час паказаў, чаго варты для Беларусаў усе гэтыя партыі.

Гэтыя-ж самыя „Вызваленцы“ і „Пэпэсы“, якія падчас тых выбараў дэклеравалі абарону інтарэсаў Беларускага працоўнага народу і чуць ня-рай на зямлі для Беларусаў, пасьля ў Сойме галасавалі за тое, што было найбольшай крыўдай беларускіх сялян — галасавалі, каб у нашым краі зямлю аддаць дарма польскім вайсковым асаднікам і даваць ім так-жа ўрадавыя грашовыя дапамогі. Ніводзін тады з гэтых „Вызваленцаў“ і „Пэпэсаў“ не адазваўся аб тым, што гэта зямля, перадусім, належыць да беларускага селяніна, якую яго дзяды, крывавым потам аблітыя, карчавалі і аб тым, што гэты селянін сяньня гаруе на маленькай палосачцы, а то і зусім без зямлі і, нятолькі ня мае ніякай урадавай дапамогі, але яшчэ абложаны такімі вялізарнымі падаткамі, што, каб іх аплаціць, ня раз змушаны прадаваць апошні кажух... Аб гэтым „Вызваленцы“ і „Пэпэсы“ маўчалі. І толькі Беларускія паслы і сэнатары, хоць бітыя, саджаныя ў вастрог, аднак, крычалі, што робіцца вялікая крыўда Беларускаму працоўнаму Народу. Але-ж толькі крычаць яны і маглі, бо, будучы ў малым ліку, нічога адваяваць ня мелі сілы.

Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта „Вызваленьне“ і „Пэпэсы“ і „Стронніцтво Хлопске“ і нарэшце „Краёвэ Стронніцтво Людовэ Зем Літэвско-Бялорускіх „Зьедночэне“ і інш. ізноў кінуліся на беларускую вёску чмуціць і туманіць галаву беларускаму селяніну, абяцаючы яму ўсялякае дабро, калі толькі яны пройдуць у Сойм, бо ім страшэнна хочацца ўтрымаць тыя мандаты, якія яны здабылі на нашых землях, дзякуючы нашай цемнаце і нясьведамасьці.

Каб лепш ашукаць беларускіх сялян і работнікаў, гэтыя польскія партыі пачынаюць тварыць хаўрусы з быццам беларусамі і на'т дакляроўваюць аўтаномію Літоўска-Беларускім землям. Гэтак званыя „Беларуская Народная Радыкальная Партыя“ Ф. Умястоўскага і „Нацыянальная Партыя“ Паўлюкевіча вядуць работу на шкоду інтарэсам Беларускага Народу, бо працуюць у згодзе з польскімі партыямі, якія ашукалі беларускіх выбаршчыкаў у 1922 г.

І хоць большасьць беларускіх працоўных масаў сяньня ўжо пераканалася, што толькі свой свайго бараніць будзе, свой за свайго заступіцца, але знойдзецца яшчэ шмат такіх Беларусаў, якія гатовы паверыць чужацкім абяцанкам.

Але, Беларусы, Сяляне і Работнікі, на гэты раз Вы не павінны даць сябе ашукаць!

Памылка, якую Вы зрабілі ў мінулыя выбары, на гэты раз не павінна паўтарыцца.

На гэты раз ані водзін Беларускі голас не павінен быць адданы за польскія партыі, ані за прадажныя, быццам, беларускія партыі.

Кожны Беларус, галасуючы за Паляка, ці за фальшывага Беларуса, крыўдзіць самога сябе і свой народ, бо выбраны ім пасол-Паляк пасьля будзе працаваць на шкоду свайго выбаршчыка — працоўнага Беларуса.

Дык вось усімі сіламі трэба старацца, каб усе гэтыя ваўкі ў авеччай скуры не здалелі на гэты раз атуманіць галовы нашых менш сьведамых братоў.

Як-жа гэта зрабіць, як нядацца?

Трэба, перадусім, добра зарганізавацца. Толькі праз добрую арганізацыю мы зможам правесьці ў Сойм і Сэнат сваіх Беларусаў, якія пасьля, не палохаючыся ні вастрогаў, ні ўсялякіх зьдзекаў будуць, цьвёрда бараніць і адваёўваць правы Беларускага працоўнага Народу.

З мэтай кіраваньня арганізацыяй Беларусаў на выбары, у Вільні стварыўся **Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт.**

З прычыны таго, што выбарны закон і штучны падзел акругоў крыўдзіць Беларусаў, каб хоць часткова направіць крыўды, Беларусы прымушаны ісьці на выбары разам з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, якіх таксама крыўдзіць выбарны закон і штучны падзел акругоў.

З гэтай мэтай Беларускі Аб'яднаны Выбарны Камітэт заключыў блёк з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, каб такім чынам правесьці ў парлямант больш прадстаўнікоў Беларускага Народу.

Апрача Цэнтральнага Камітэту ўжо арганізаваны **Акружныя Камітэты** ў наступных месцах:

I. м. Сьвенцяны, Віленская вул. 15
II. м. Ліда, Сувальская № 12 кв. 5.
III. м. Наваградак, Вялікі Рынак 37.
VI. м. Ваўкавыск, Шырокая № 115.
V. м. Горадня, Брыгідзкая № 22.
VI. м Бэрэза Картуская, Рынкава-Татарскі зав. № 4.
VII. м. Бельск-Падляскі, вул. Касьцюшкі 7 і ў Пінску. (Усе выбаршчыкі па ўсялякія інфармацыі ў справе выбараў і па друкі могуць зварочвацца ў свой акружны Камітэт, або ў Цэнтральны).

У кожным павеце заложаны таксама павятовы Аб'яднаны Камітэт. Але мала гэтага. У кожнай воласьці, у кожным абводзе, на'т у кожнай вёсцы павінен стварыцца Беларускі Аб'яднаны Выбарны Камітэт. Тады толькі мы будзем запраўды добра зарганізаванымі і тады ня змогуць зла віць нас на сваю вуду розныя „Вызваленцы“

**Дык, Беларусы, Сяляне і Работнікі!** Выпаўніце свой грамадзкі абавязак, падтрымайце працу Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту, гуртуючыся каля яго і закладаючы Беларускія Выбарныя Камітэты вясковыя, абводныя і валасныя. Няхай нас не пужае праца, няхай нам прысьвечвае, як ясная зорка на небе, дабро цэлага нашага Народу, дабро сялянства і работнікаў, нашай беднай Бацькаўшчыны.

**Усе разам, рука ў руку, да працы!**

**Беларускі Цэнтральны Аб'ядн. Выб. Кам. Блёку Нац. Менш.**
**Вільня, Вострабрамская 8—1.**

## Прычыны „бандытызму“ у Нікарагуа.

Блізка ўжо год ад таго часу, калі ў прэсе пачалі зьяўляцца весткі аб барацьбе ў рэспубліцы Нікарагуа. Блізка ўжо год ад таго часу, калі Злучаныя Штаты нішчаць і ліквідуюць „бандытаў“ і заводзяць „лад і супакой“ у гэнай рэспубліцы. Блізка ўжо год, як войскі Злучаных Штатаў вядуць барацьбу ў Нікарагуа, але не з „бандытамі“, а з яе жыхарамі, якія паўсталі ў абароне незалежнасьці і самастойнасьці сваей Бацькаўшчыны ад імпэрыялізму і капіталізму амэрыканскае буржуазыі...

Нікарагуа — маленькая амэрыканская рэспубліка, па абшару раўняецца амаль 2-м былым губэрніям на нашых землях. Ляжыць яна ў тым пасе амэрыканскае зямлі, каторы лучыць і адначасна дзеліць Амэрыку на Паўночную і Паўдзённую. Жыхарства, у параўнаньні з яе абшарам, невялікае — каля 640.000 чалавек. Складаецца яно пераважна з крэолаў — патомкаў белых эўрапэйцаў і вывезеных з Афрыкі неграў (чорных).

Апрача Нікарагуа ў тым пасе ляжаць і другія незалежныя маленькія Сярэдня-Амэрыканскія рэспублікі — Гватэмала, Гондурас, Сальвадор, Коста-Рыка і Панама. І вось, усе гэтыя рэспублікі зьяўляюцца тымі старанамі, каторых Злучаныя Штаты ад даўжэйшага ўжо часу імкнуцца падпарадкаваць сваім эканамічным і палітычным уплывам. Імкненьне Штатаў захапіць гэтыя рэспублікі выклікае частыя канфлікты і барацьбу. Барацьба вядзецца двума спосабамі: перакупствам уплывовых кучак людзей, якія за даляры выклікаюць у гэных рэспубліках рэвалюцыйныя рухі, або, проста, наездам, які наезьнікі называюць па дэлікатнаму „узяцьцем пад апеку“ той ці іншай рэспублікі. Прычыны барацьбы і палітычных імкненьняў Штатаў вельмі рожнародныя, якія тонуць у моры „фактаў і доказаў дэмакратычнасьці і пакаёвых настрояў амэрыканскага ўраду“.

Але з гэнага мора, як скалы, высоўваюцца тры прычыны, якія паказываюць запраўднае імкненьне „дэмакратычных і пакаёвых“ Штатаў. Першаю з іх ёсьць тое, каб запэўніць амэрыканскім капіталістым бясьпечна налажыць эканамічнае ярмо на Сярэдня-Амэрыканскія рэспублікі, другая — забясьпечыць, замацаваць за сабою Панамскі канал, нарэшце, трэцьця — імкненьне адасобіць Мэксыку і паралізаваць яе палітычныя ўплывы на Сярэдня-Амэрыканскія рэспублікі. Вось што прымушае Штаты разявіць сваю пасьць над маленькай Нікарагуай. Справа з ёю заблутана яшчэ тым, што, каля 10 гадоў таму назад, Штаты цаною 3 мільярдаў даляраў купілі ад тагачаснага Нікарагуанскага ўраду права збудаваць міжакіянскі канал праз тэрыторыю Нікарагуа, каб такім чынам забясьпечыць Панамскі канал. Ясна, што гэтыя даляры ў пэўнай ступені падпарадкавалі Нікарагуа Штатам. Ужо тагды некатарыя лібэралы зразумелі, куды і да чаго імкнуцца Штаты і паднялі „папяровую“ барацьбу проціў Штатаў. Калі-ж у мінулым годзе даляры Штатаў пасадзілі на прэзыдэнцкі трон Нікарагуа Дыяца — платнае аружжа ў руках вашынгтонскага ўраду — лібэралы паднялі запраўдную барацьбу, ня толькі словам, але і чынам. За лібэраламі стаяла маса жыхарства, паслухала заклiку Сакассы і з аружжам ў руках кінулася ў абароне палітычнай і гаспадарчай незалежнасьці свайго Краю.

Поўныя веры ў сваю перамогу паўстанцы вялі барацьбу на жыцьцё і на сьмерць.

Амэрыканскі капітал, пачуўшы пагрозу, падняў гвалт... і кінуўся да ног сваіх стаўленікаў — вышынгтонскага ўраду — з просьбаю абароны ў форме аружнай інтэрвэнцыі. Вынікам гэнага, вашынгтонскі ўрад абвесьціў, што Штаты адносна замешкі ў самой Нікарагуа нічога ня маюць, але, ў абароне інтарэсаў сваіх грамадзян, высылаюць ваенную эскадру на воды Нікарагуа. Эскадра прышла не на воды Нікарагуанскай рэспублікі, але падышла да яе берагоў і высадзіла войска, якое скора пачало „завадзіць парадак“ пад камандаю адмірала Ляцімэра. Паўстаньне было затоплена ў крыві тых, хто шчыра і моцна любіў вольны свой край. На прэзыдэнтскі трон пасаджаны быў Дыяц, які зрабіў са Штатамі такую ўмову, што проста такі Нікарагуа аддавалася пад „пратэктарат“ Штатаў. Вось гэны „пратэктарат“ і стварыў тое, што матросы Штатаў гаспадараць у нешчасьлівай Нікарагуа. Час ад часу прыгнечаны народ хватаецца за аружжа, але кожны штуршок да свабоды страшна караецца чужынцамі, якія на ўвесь сьвет крычаць толькі аб ліквідацыі „банд“ у Нікарагуа.

Апошнім часам у Нікарагуа ізноў паднялася барацьба за волю. На гэны раз сьцяг яе вывесіў генэрал Сандзіно. Устрывожаныя Штаты ў адказ на гэная паслалі новыя транспарты матросаў. Дэмакраты з Вашынгтонскага Сойму, жадаючы стрымаць разьюшаны мілітарызм Штатаў, дамагаліся, каб урад вывеў войскі з Нікарагуа і болей не пасылаў, але „рэспубліканская“ большасьць амаль не з агідаю адкінула гэнае слушнае дамаганьне.

І вось цяпер, пад гукі гарматаў, якія бамбардуюць нікарагуанскія ўзьбярэжжы, раздаюцца раптугі экзэкуцыяў, каторыя даконваюць амэрыканскія матросы над паўстанцамі...

А сэкрэтар Міністэрства Замежных спраў штатаў — Кэльлёг — сядзіць у габінэце і піша артыкулы, што вайна ёсьць міжнародным праступкам...

## Дзьве канфіскаты „Сял. Нівы“.

**Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню сканфіскаваны № 6 (153) „Сялянскае Нівы“ за перадавіцу п. наз. „Факты і іх агітацыйнае значэньне“.**

**Канфіскаваны таксама наступны № 7 „Сял. Нівы“ за вестку з краю „Дзе здрада“.**

**З прычыны канфіскатаў у мінулым тыдні мы не маглі выпусьціць газэту.**

## Апечатаньне памешканьня Беларускага Выб. Камітэту у Наваградку.

Дня 10-га студзеня с. г. ў кватэру Беларускага Акружнага Выбарнага Камітэту ў Наваградку пры Вялікім Рынку 37, раптоўна зьявілася некалькі асоб, якія заявілі, што яны, як тэхнічная камісія, мусяць агледзіць памешканьне Камітэту, ці яно прыдатна пад кватэру для Камітэту. Пасьля няпрошанага „асмотру“, „камісія“ прызнала кватэру Камітэту няпрыдатнай і апячатала яе, каб такім чынам забараніць Камітэту карыстацца з нанятай кватэры. У часе гэтага „дабрадзейства“ паміж сябрам Беларускага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту гр. І. Куніцкім і адным з сябраў „камісіі“ зайшла спрэчка. Сябра „тэхнічнае камісіі“ дамагаўся ад гр. Куніцкага, каб ён гаварыў да „камісіі“ толькі папольску. Ёсьць ведама, гр. Куніцкі гутарыў выключна пабеларуску і, замест таго, каб навучыцца папольску, параіў патрыёту-ўрадоўцу навучыцца пабеларуску.

Каб зразумець няпрошаны налёт „камісіі“ трэба ведаць, што кватэра Беларускага Выбарнага Камітэту знаходзіцца ў вельмі добрым месцы, напроці рынку, а даволі вялікая вывеска з беларускім назовам, відаць, ёсьць не да ўспадобы польскім патрыётам.

Незалежна ад апячаткі кватэры, Беларускі Акружны Аб'яднаны Выбарны Камітэт у Наваградку працуе ўвесь час.

# ВЕСТКІ З КРАЮ.

### За каго галасаваць?

Чытаючы беларускія часопісі даведаўся я, што нарэшце, у патрэбны момант, абразуміліся меншасьці і прышлі да аб'яднаньня. Радаснае гэта зьявішча, бо кожнаму ведама, што сіла ў аб'яднані і арганізацыі.

Але што нашае аб'яднаньне паможа там, у Вільні, калі мы, жыхары вёсак і сёлаў, не аб'яднаемся... А ўжо на гэта час, бо прыбліжаецца дзень выбараў, дзень 4-га сакавіка, дзень нашай будучыны. Гэты дзень вырашыць, як мы стараемся паправіць сваю будучыну, мо' не цярпець болей крыўд і залячыць дасягоняшнія балячкі... Дык чаго-ж мы сядзім? Што думаем?

Ці-ж багатыя людзі чакаюць, што ім прынясе доля? Не, яны заварушыліся. Калі нават ксяндзы, каторым, паводле рэлігійнага закону, забараняецца ўтыкаць нос у палітычныя справы, дык і то арганізуюць нейкія „Kółka Misyjne", рыхтуюцца да выбараў, а што-ж гаварыць аб розных панох.

Дык, да працы, браты сяляне! Вас кліча селянін-Беларус, які жыве на вузенькай палосцы, і брат бяды і гора, — а ня польскі шляхціц.

Да сягоньняшняга дня я быў беспартыйны і ў ніякай арганізацыі ня браў удзелу. Але цяпер прыхіляюся да Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту і за ім іду.

Да гэтага і вас, браты-сяляне, асабліва сьвядомых Беларусаў, заклікаю. Усе, як адзін, і адзін, як усе,—падайце свае галасы за сьпісак толькі той, каторы будзе выстаўлены Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарным Камітэтам. За яго ўсе, хто толькі мае права голасу!

Надта жутка слухаць, як цяпер несьвядомыя сяляне гавораць: „Бог яго пойдзе на тое галасаваньне, там і бяз нас усё зробяць!" Эх, вы, браты! Ці-ж вы ня ведаеце, што адзін голас можа палепшыць жыцьцё мільёнаў бяздольных. Не сядзіце 4-га сакавіка за комінам, а ідзіце і падайце свае галасы за тых кандыдатаў, за тых людзей,—каторыя аддалі сваю энэргію за працоўных, за беднату і іх сьлёзы!

Дык, помнім-жа дзень выбараў і шчыльнымі радамі ідзём галасаваць!

Адам Міхновіч.

### Хто-ж угадовецi?...

(Браслаў).

Я наколькі мог, стараўся дазнацца, каму і як угаджае Бел. Сял. Саюз і яго лідэры і тая арыентацыя з пад знаку „Думкі Працы". Ніяк і нічога рашаючага сабе не ўясьніў аж да часу прадвыбарнае працы.

Цяпер-жа, калі ідзе падгатоўка да выбараў, я пераканаўся, што лідэры (галоўныя кіраўнікі) Белар. Сялян. Саюзу і праўда ўгадоўцы.—І праўда яны знаходзяцца ў Саюзе, але-ж ня з кім іншым, а з самымі беларускімі сярмяжнымі масамі. Вось гэтакую ўгоду я шчыра вітаю.

Калі я шчыра вітаю гэтую ўгоду, дык праклінаю з пагардай і ганьбай угоду тых, якія кіруюць „Думкай Працы". Я ня ведаю, як назваць іх працу!... Проста ня маю слоў, каб выказаць тое пачуцьцё, поўнае жалю і пагарды, якое кіпіць у маім сэрцы.

Ганьба вам, кіраўнікі „Думкі Працы", Вы стварылі ўгоду з польскімі партыямі, якія нас гэтак моцна і жорстка пакрыўдзілі. Вы, кіраўнікі „Думкі Працы" імкнецеся аддаць наш пакрыўджаны народ розным Дзядзюлям, Заштаўтам, Ваявудзкім і г. д., якія кідаюць кручок з прынадаю лявізны, каб пасьля, пазбавіўшы нас роднае атмасфэры, вызысківаць нас і аканчальна зьніштожыць.

Толькі цяпер стала аканчальна ясна і зразумела, хто наш прыяцель, а хто вораг, хто за народ і хто проці народу. Вы, паны кіраўнікі „Думкі Працы", кіньце сваю працу, якая ганьбіць вас і калі вы запраўды Беларусы, калі вы спачуваеце працоўнаму Народу, дык прыставайце да Беларускага Выбарнага Аб'яднаньня і, адкінуўшы лякайскую ўгоду з польскімі партыямі, вядзеце барацьбу, а не ўгоду.

К. Цыль.

### Іуды—прадажнікі.

(Голас вёскі).

Пяць гадоў таму назад, калі праводзілася выбарная кампанія ў Сойм і Сэнат, агенты ППС. і Вызваленьня, кішмя кішэлі ў нашых вёсках. Праўда, у той час, дзякуючы нашай нясьведамасьці, вясковыя масы аддалі многа сваіх галасоў успомненым Іудам, дзеля іх пекных лёзунгаў і абяцанак. Калі Сойм і Сэнат былі распушчаны і абвешчаны новыя выбары, ППС. і Вызваленьне ізноў заваліваюць вёску морам сваіх агідных праклямацыяў з заклікам падтрымаць іх сялянскімі галасамі. Але, не знайсьці вам галасоў пасярод Беларускрга Народу! Беларускі Народ, дзякуючы ахвярнай працы Беларускага Пасольскага Клюбу, стаў сьведамым і добра ведае, за каго падаць свае галасы. Сваімі галасамі ён пашле ў Сойм і Сэнат лепшых сваіх сыноў-барацьбітоў, каб баранілі яго нацыянальныя і сацыяльныя правы. А вы, прадажнікі-Іуды з крывавымі рукамі, проч ад нашай вёскі, бо... вы аддалі беларускую зямлю асаднікам-Палякам! Праз вашую ласку падаткі гнятуць беларускага селяніна! Вы пастараліся даць аўтаномію беларускаму селяніну і работніку... на „Лукішках" і інш. турмах!

Гэта ўсё ваша работа ППС і Вызваленьне! Дык памятайце, што вашая здрадніцкая палітыка ў мінулых Сойме і Сэнаце адчыніла вочы беларускаму селяніну і работніку! Цяпер няма вам беларускіх галасоў!

Мы, Беларусы, якія любім сваю Бацькаўшчыну і верым у яе сьветлую будучыню, далучаемся да адзінага Беларускага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту, які змагаецца за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне.

Біч.

### Наша забойчая „прафэсарка".

(В-ка Гулі, Пастаўскага пав.).

Наша „прафэсарка" вельмі неакуратна адносіцца да нашых школьных дзетак. Амаль ня кожны дзень чуецца ў школе плач і крык. Наша „прафэсарка" не бярэ пад увагу, што дзеці халодныя і галодныя, а бязлітасна б'е іх кіем. Бацькі сталі казаць, што дзяцей ня можна біць, дык „прафэсарка" адказала, што кій пакінуў ёй п. інспэктар, і дакляравала ад Новага Году справіць ужо пугу на нашых дзетак...

Другім забойствам для дзяцей ёсьць „ustęp" „нашай прафэсаркі", каторы месьціцца ў школе. Аднаго разу, дзеці, падчас пярэрвы, абярнулі яго так, што зьмест „ustępa" заняў усю школу. Бачачы гэна „прафэсарка" загадала ўсю цечу пазьбіраць рукамі. Дзеці, хоць дружна прыняліся выконваць загад сваей улады, аднак-жа дасталі ад „прафэсаркі" на падгон кія.

Дык вось, дарагія браты, як вучыць нашых дзетак „прафэсарка" чацьвёрты год.

Гулеўскі.

## Закладайма хаўрусныя крамы!

Перадусім, што такое хаўрусная крама? Хаўрусная крама, або коопэратыў, гэта ёсьць звычайная спажывецкая крама, закладзеная на супольныя сродкі, супольнымі клапотамі, дзеля задаваленьня ўсіх матэр'яльных патрэбаў сваіх сяброў. Першым крокам гэтай хаўруснай крамы, зьяўляецца тое, каб забясьпечыць сваіх сяброў таннымі і добрага гатунку прадуктамі, неабходнымі для штодзеннага ўжытку: як соль, газа, мыла і г. д., дастаўляючы іх ад першае рукі. Паўстае такая хаўрусная крама найчасьцей там, дзе насяленьне цьвёрда пераканаецца, што яна пераплачывае лішні грош гандляру за атрымліваны ад яго тавар, часта нясьвежы, без належнае вагі. У гэтакім выпадку, зьбіраецца па магчымасьці большы лік гаспадароў, знаёмяцца з правіламі, спэцыяльна дзеля гэтае мэты існуючымі, апрацоўваюць статут, устанаўліваюць паі, выбіраюць Управу, Надзорчую Раду і загадчыка хаўруснай крамы.

Пасьля пішуць пратакол сабраньня і, разам з адумысловай просьбай, далучыўшы тры экзэмпляры статуту, пасылаюць у Акружны Суд, для зацьвярджаньня і легалізацыі.

Пасьля атрыманьня паведамленьня ад Акружнага Суда аб легалізацыі, прыступаюць да працы. У такой хаўруснай краме, кожны, хто унес пай—гаспадар, ніякага начальства няма, заработку таксама няма, а ёсьць перабраныя лішнія грошы на раздадзены тавар у працягу году. Усё, што, пакрыўшы расходы, застаецца ў канцы году, дзеліцца паміж усімі пайшчыкамі, ці астаецца ў коопэратыве, пры згодзе пайшчыкаў, як грамадзкі капітал.

Значэньне гэтай хаўруснай крамы, вельмі вялікае. Справа ў тым, што ёсьць шмат такіх тавараў, якія, пакуль дойдуць да вясковага чалавека, праходзяць праз цэлую літанію пасрэднікаў—перакупшчыкаў. З фабрыкі тавар ідзе перш-на-перш у рукі вялікіх гуртаўшчыкоў, ад іх—да меншых, пасьля трапляе ў краму мястэчковага гандляра, а адтуль ужо і да нас, да вясковага крамніка. Ёсьць гэтакія рэчы, што праходзяць цераз 10—12 рук. Ведама, што ўсе гэтыя перакупшчыкі, стараюцца зарабіць, бо на гэтым трымаецца ўвесь гандаль. Так, што калі адна, скажам, рэч, каштуе на фабрыцы 10 гр., дык пакуль дойдзе да нас, будзе каштаваць 100 гр. і г. д.

А колькі нявыгады мае наш селянін, калі няма пад рукою крамы, а трэба канечна купіць патрэбную рэч, прыходзіцца знарок ехаць за 15—20 верст у мястэчка. А калі тамака ня згодзіцца на цану, ці гатунак тавару, дык і дзень страціць дарма, і каня намучае.

Усе гэтыя нявыгоды і клопаты самі-сабою згінуць, калі толькі адчыніцца хаўрусная крама. Такая хаўрусная крама ўсе тавары выпісвае, або проста з фабрыкі, або ад вялікіх коопэратыўных гуртоўняў, складаў, дык гэтак, мінаючы перакупшчыкаў, мае тавары танныя і лепшыя. Ня кажучы аб усіх выгадах, якія дае сваім сябрам хаўрусная крама, яна шмат можа зрабіць і дзеля грамадзкай справы. Ведама, што кожны год, крама будзе даваць такі-сякі даход, гэты даход, дзеліцца між сябрамі так, каб той меў больш даходу, хто больш у яе тавараў купляў. Але з чыстага даходу можна што год аддаваць частку на культурна-прасьветныя мэты сваіх сябраў: бібліотэкі—чытальні, курсы, школы, Народныя дамы і інш. Дык, калі крама пайдзе добра, калі ўсе хаўруснікі будуць рупіцца аб ёй, тагды больш будзе чыстага даходу і больш грошай можна будзе аддаваць на карысныя грамадзкія справы. Першая такая хаўрусная крама, ці коопэратыў, была закладзена ў Англіі, у фабрычным месьце Рочдэль у 1844 г.

Першыя яе закладчыкі насілі тавар у сваю краму на плечах, па чарзе.

У сучасны-ж мамэнт, сябры гэтай крамы маюць вялізарныя мільённыя абароты, дзесяткі тысячаў сябр., шмат сваіх фабрыкаў, гуртоўняў, складаў, дзесяткі рожных курсаў, школаў, сотні бібліотэк-чытальняў, народных дамоў, выдаюць свае газэты, кнігі, журналы і інш. Наскольні карысна нашым сялянам закладаць гэтакія хаўрусныя крамы, паказвае яшчэ і гэтакі факт. У 1920 г. сяляне аднага з паветаў Смаленшчыны заложылі такую хаўрусную краму, сябрам якое быў і я Пачаткова наш капітал быў невялічкі, усяго 200 руб. золатам. Цераз год наша хаўрусная крама прынясла нам чыстага даходу 700 руб., а ў другім годзе—2 тысячы руб. зол. З чыстага даходу, за першы год 450 руб., адлічылі на сваю школу і Народны дом, а з другога году, ізноў далі 300 руб. на школу, 100 руб. на царкву, ды нешта са 200 руб. ахвяравалі на публічную бібліятэку ў Смаленску і толькі насьпеўшая вайна спыніла нашу працу.

І так, браты — сяляне, закладайма вясковыя хаўрусныя крамы!

К. Матусэвіч.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у Вашай паважанай часопісі ніжэй паданае:

У № 40 (69) газэты „Беларускае Слова" за 31 сьнежаня 1927 г., зьмешчана з мэтай апаганіць маё добрае імя, зацемка: „Мар'янэтачная афэра Пётры Булгака", у якой, паміж звычайнаю для гэтае гора — беларускае газэты агіднаю брахнёю, сказана, што я, быццам, ня выпаўніў падпісанае мною з „Бел. Хаткаю" умовы аб тэатры.

Праўда, 12 траўня мінулага 1927 г. была падпісана з урадам „Бел. Хаткі" умова аб загатоўцы мною рэквізыту для мар'янэтачнага аб'ezднага тэатру, канцэсію на які мела дастаць „Бел. Хатка", якая за маю падгатоўчую працу абавязалася ў вышэйназванай умове выплаціць мне агулам 400 зл. (70 зл. пры падпісаньні ўмовы, плюс 260 залатых у пяць тэрмінаў з 23/V да 20/VI 1927 г., а рэшту — 70 зл.—пасьля загатоўкі рэквізытаў).

Пачаўшы выпаўняць прынятую на сябе работу, я патраціў на яе больш, як 2000 зл. уласных грошай і ніяк ня мог дабіцца, каб „Бел. Хатка" выпаўніла прынятае на сябе абавязаньне па выплаце мне азначаных умоваю ратаў. Мімаволі я пачаў думаць, што трапіў на нячэсных людзей, якія зусім ня думалі аб якім-небудзь тэатры, а, проста, стараліся нацягнуць мяне на вялікія для працоўнага чалавека бясплодныя расходы.

Аднак-жа, я, па меры неакуратнай выплаты мне „Бел. Хаткаю" умоўленых сумаў, вёў работу далей і ўсе патрэбныя рэчы, для агаворнага ўмоваю тэатру ў мяне ёсьць і дасёняшняга дня. Будучы даўно гатовым да пушчэньня ў рух тэатру, я, запраўды, стрымаўся надалей абіваць парогі маіх контрагэнтаў, чакаючы з іх боку ініцыятывы, аж пакуль дачакаўся ад газэціны „Бел. Слова" неспадзеванага новагодняга сюрпрызу.

З гэтага ўсяго кожны зразумее, якая старана ў гэтай нашай „мар'янэтачнай" умове аказалася афэрыстычнай.

Калі-б „чэсьць" гэтакая выпала мне, дык ня ведаю, як мог-бы я працаваць на сцэне „Reduty", а перад тым, у Варшаўскіх і Катавіцкіх тэатрах.

Ня мог-бы я напэўна запісаць у свой акторскі стаж і тае вялікае працы, якую палажыў аб'яжджаючы нядаўна глухія куткі роднага краю з Беларускім Народным Тэатрам.

Беларуская сцэна знае мяне ад 1905—6 г.г. і з таго часу я ні разу ня сустрэў гэткае чорнасоценнае кампаніі „тоже бѣлоруссов", якая, сабраўшыся ў „Бел. Хатцы", уцягнула мяне ў лішнія расходы, прафануючы ідэю адраджэньня Беларускага тэатру.

Думаю, што пасьля мяне ніводная паважная артыстычная сіла ні ў якія перагаворы з антрэпрэнэрамі з-пад знаку „Бел. Хаткі" уваходзіць не павінна.

З пашанаю П. Булгак.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Той самы.** За Вашую карэспандэнцыю „Дзе здрада", у якой Вы абгаварылі кумоўства прыхільнікаў „Думкі Працы" з польскімі левамі партыямі сканфіскаваны № 7 „Сялянскае Нівы".

**Іванцэвічу Антону.** Грошы атрымалі, газэту пасылаем Вам ад 4 студзеня.

**Міхновічу А.** Пасылаем Вам па 5 экзэмпляраў „Сял. Нівы".

**Беднаму М.** Календар Вам пасылаем. У вастрог у Берасьць ужо паслалі.

**Прысутнаму з Голубіі.** Просім падаць Вашае прозьвішча, тады пастараемся зьмясьціць карэспандэнцыю аб надужыцьцях паліцыянтаў.

**Катовічу Т.** Газэту ўвесь час пасылаем Вам.

Вялічку Ул., Кроту Я., Гоцьку К., Казлу Ал., Сіцьку Т., Печку Г., Катовічу Т., Білабрану М., Пархімовічу В., Кандрашаву Ів., Сончыку І., Кучуку П., Лобовічу М., Цюпку В., Павлюкевічу Язэпу, Райскаму Я. — газэту пасылаем.

### Дасталі ад:

Багушэвіча Я.—4 зл.; Гаўрыленi Б., Куліка Я., Каханскага П., Вярбіцкага В., Санько Ф., Саткоўскага Я., Сідлярэвіча Я., Міська Б., Полумха М.—па 2 зл.

## Куток сатыры і сьмеху.

### Абвесткі.

Калі хто жадае быць духоўнікам (папом ці ксяндзом), дык няхай зьвернецца да „наўчэнага спадара" Я. Станкеўчыка.

Станкеўчык ужо высьвенціў б. сэнатара Багдановіча на духоўніка і называе яго ў сваей газэціне „Народ" № 1, айцом. Ведама, як духоўніка.

— —

У тым-жа „Народзе" чытаем, што „вельмі ўдешна разьвівалася Беларуская Сялянская Партыя, закладзеная ў 1922 г. ў Празе (чэскай)".

Што-ж, можа і праўда!... Гэта ня дзіва... Але-ж „спадароў Народ" няхай пахваліцца, як разьвіваецца яго партыя, „закладзеная" ў 1927 годзе?

## У справе адрыўнога календара.



Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.